3. Год II—1913. Сакавік (Марэц). 12-ая кніжка.




## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньняхъ дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Годъ II—1913. Сакавік (Марэц). 12-я кніжка·

САХА першы беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.



# Садауніцтво на паказных хутарох Бабруйскаго і Ігуменскаго паветоу.

## I.

Ужо на 18-ці хутарох пароблены паказные фруктовые сады і агароды.

Усяго пасаджэна 880 фруктовых дрэвак, маючых трохгадовые кароны. Найбольш с паміж іх антонавак і англійскаго пэпіна; ёсць ешчэ пакрысе пасаджэных: баравінкі, чырвонаго кальвіля, чорнаго дрэва, салодкаго ананаснаго і аныжа аксамітнаго. Дрэвы пасаджэны адно ад другога на 12 аршыноў па амэрыканскаму спосабу — не ў радкі, а ў лукаткі (ў шахматным парадку).

## II.

**Лубін у садзе**. У некаторых паказных садох, дзе грунт пешчаны, робяцца пробы, каб палепшыць — угноіць такі сад лубінам.

І, калі гэта добра ўдасца, тады сьмела можна будзе сказаць, што нашы і пешчаные грунты могуць зацьвісьці счасам фруктовымі садамі.

Пробы робяцца так. З восені — сьвежа пасаджэны сад глыбока загорываецца; каля фруктовых дрэвак — на аршын у вокал пня кладзецца гной. Вясной — земля барануецца, а пасьля — каля 15 Апрыля сеецца лубін, каторы запахіваюць спружыновай бараной, ці якой колечы іншай прыладай, ня больш вершка глыбіні. Першы год лубіну даюць расьці да познай восені, тады яго загорываюць і гэтак астаецца на зіму. Трэба ведаць, што першы год лубін расьце слабавата.

На другі год зноў сеяць на тым самым мейсцы лубін, і калі ён удасца лепш, то яго ўжо загорываюць ня чэкаючы восені—а раней, калі ешчэ лубін стаіць зялёны.

Пасьля 3 — 4 гадоў, калі лубін добра ўдаваўся, ў садзе можна пасадзіць бульбу, а пасьля ізноў сеяць лубін.

Гэткім парадкам, земля пад садам праз некалькі гадоў так паправіцца, што фруктовым дрэвам, для добраго іх узросту, будзе хапаць сокаў у зямлі, асабліва азоту, бо лубін найбольш яго дае.

III.

**Фосфарные і калійные солі.** Каб імі засіліць фруктовые дрэвы, найлепш дадаваць фабрычнымі парашкамі тамасшлаку і каініту—па 5 фунтоў на кожнае дрэўцэ—ў першым гаду; на трэйці год—па 10 фунтоў і т. д.

Не так ужо дорога будзе гэта капітаваць, бо фунт тамасшлаку каштуе толькі адну кап., так сама і каініт — па 1 кап. фунт; значыцца ў першым гаду падгноіваньне кожнаго дрэва абойдзецца—10 к., а у трэйцім—20 к.

Найважней тое, калі гэтак будзем рабіць, то, хоць сад ужо разрасьцецца—гною ня трэба будзе даваць; патрэбны ён толькі першые 3—4 гады.

IV.

Апошнімі часамі, хутаране што раз часьцей і часьцей зьвертаюцца да агранамічных старастаў, каторые іншым разам робяць разбіўку сада, памагаюць і паказываюць, як садзіць.

Як няўмела і дрэнна даўней хадзілі каля садоў, можэм пераканацца з гэткаго прымеру.

Памешчык Чэрнэцкі (Бабруйск. пав. Рудобельскай вол.) каля в. Бубноўкі пасадзіў штук 200 прышчэпаў і ўсе яны пагінулі дзеля таго толькі, што дрэнна былі пасаджэны. На другі год—у двох пробных хутарох в. Бубноўкі — агранамічны староста Карачун пасадзіў 100 фруктовых дрэвак. Як-жэ узьдзівіліся селяне, калі пабачылі, што ні адно з гэтых дрэвак не прапало.

Зразумелі яны цяпер добра, што тут не земля вінавата, а іх уласная няўмеласьць узяцца за гэту работу.

Па хутарох—шмат ужо с паміж селян маюць у сябе садкі, пасаджэные на манер пробных, по дрэў 80—100.

Беда толькі ешчэ ў тым, што ў нас нехват добрых і пэўных фруктовых школак.

У Бабруйскім павеце ёсьць усяго толькі адна нішто школка ў п. Судніка у дварэ Малынь, Рудабельскай вол. У Ігуменскім пав. добрые ёсць школкі ў Мар'іна-Горскай школе, ў памешчыка Бонч-Асмалоўскаго у дв. Блоне і ў Карабановіча.

Але ўсё гэта, разумеецца, малавата.

Вось дзеля гэтаго, аграномы землеустр. каміс. пачалі ўжо заводзіць свае школкі. У 1912 г. зрабілі вялікую школку ў хутарскай вёсцы—Прусах—Бабруйскаго пав. Асавецкай воласьці.

К налецьцю маняцца залажыць такую-ж школку фруктовых дрэвак у с. Жыціне, Бабруйск. пав.

**Агронам А. Калікінскі.**

*г. Бабруйск.*

# Агароднiцтво на паказных хутарох Бабруйскаго i Iгуменскаго паветоу.

## I.

**Пробы з варывам** рабiлiся вось як.

З восенi на агарод вывязлi гной i загаралi яго; пасьля пасыпалi каiнiтам (лiчучы 36 п. на дзесяц.) i забаранаваўшы яго жалезнай бараной, гэтак пакiнулi да вясны.

Вясной агарод iзноў перагорывалi i рабiлi грады шырынёй па поўтара аршына. Днi два — перад саджэньнем варыва — грады пасыпалi супэрфосфатам (трэйцiю часьць фунта на адну квадрат. саж.) i граблямi акуратна зьмешалi яго з зямлёй.

Як толькi варыво пачало усходзiць, палiвалi яго разбаўленай у вадзе салетрай (1 сталовая лыжка — на вядро вады); праз лета ешчэ разы 3 — 4 падгноiвалi салетрай: у сухую пагоду—разбаўленай, у мокрую—пасыпалi сухiм парашком, лiчучы 3—4 лоты на квадр. сажэнь.

С памiж варыва, пры гэткiм даглёдзе, найлепш удалiся: морква Герандская, Браўншвэпская; агуркi — Вязьнiкаўскiе, Бараўскiе i Аксельскiе; буракi—Егiпецкiе—салатные i рэдзька—Грайваронская.

## II.

**Капуста** — была пасаджэна павэдлуг майго ўласнаго прыдуманаго способу.

З восенi на мейсцэ пад капусту навезьлi гною i пасыпалi каiнiтам; так сама прырыхтавалi зямлю i пад разсаднiк, толькi каiнiту бралi больш т. е. 1 ф. на квадр. саж.

На вясну — ў канцы марца пасеялi разсаду, а каб абаранiць яе ад марозаў—закрывалi саламянымi матамi.

На загадзя прырыхтованых градах — у два аршыны шырынi — сьперша парабiлi ямачкi — на аршын адна ад другой, у гэтые ямкi ўсыпывалi па невялiкiм келiшку супэрфосфату i усьлед-жэ iх палiвалi вадой, а пасьля двух дзён, вымешаўшы акуратна ў кожнай ямцы зямлю с парашком супэрфосфата, — разсаджывалi разсаду.

Яя толькi разсада пачала усходзiць, палiвалi яе разбаўленай у вадзе салетрай чылiйскай ( 1 лыжка — на вядро вады) па два разы ў тыдзень.

Пры узросце капусты час—ад—часу падгноiвалi яе чылiйскай салетрай,—зважаючы на пагоду: калi суха — разбаўленай, у макрыню — пасыпалi сухiм парашком (па поў гарбатняй лыжачкi на калiва).

Гэткiм парадкам падгноiвалi салетрай капусту: ў Маi — 4 разы; ў Чэрвiнi—2 i ў Лiпнi—1,—ўсяго, значыцца, праз лета—7 разоў.

Найлепш с паміж усіх удалася капуста Браўншвэйская. Іншые,—як Сабураўка, Грэчэская пудовая і т. д. выдалі слабей.

Якая карысьць з гэткаго даглёду капусты, можэм перэканацца, калі падлічым акуратна, колькі дала-б дзясяціна, павэдлуг падрахунку кожнаго вучастка, засаджэнаго капустай.

| | Пудоў капусты з дзесяц. | Сярэд. вага качана |
|---|---|---|
| 1) Хутар Майсея Караля в. Колбча, Ігум. пав. . . . . . . . . . . | 3600 | 20 ф. |
| 2) Хутар Ф. Бурко в. Капланцы, Ігум. пав. . . . . . . . . . . . | 2460 | 18 „ |
| 3) Хутар Апанаса Жулегі . . . . . | 2460 | 18 „ |
| 4) Хутар Андрэя Андрэева . . . . . | 2460 | 18 „ |

III.

**Карысьць с паказных агародаў** — не малая.

Асабліва ў в. Колбчы, ды і па другіх суседніх ваколіцах—вельмі ўсе цікавяцца гэтымі новымі спосабамі агародніцтва і пачынаюць заводзіць гэтые навіны ў сябе.

Не мала заахвоціла хутараноў і апошняя выстаўка садаўніцтва і агародніцтва, якую зрабіло Мінскае Таварышчэство сельскай гаспадаркі 13—15 Кастрычніка (Акцябра).

На выстаўку гэту прывезьлі сваё варыва і 6 чэлавек—хутараноў і ўсе яны атрымалі нагроды грашмі, а адзін с паміж іх апрача таго і пахвальны ліст.

**Агронам А. Калікінскі.**

*г. Бабруйск.*

# Рады для гаспадароў.

Як толькі сойдзе сьнег і стане цёпла—земля пачынае награвацца, а ральля тады падсыхае. Дык вось, каб яна зусім ня высахла, трэба загадзя выежджаць на поле з бараной. Баранаваньне, асабліва для тых, у каторых поле загарана на зіму, павінна быць першай і абавязсковай работай з ранняй вясны.

Праз зіму — ў зямлі набіраецца шмат запасу вільгаці, а

гэта зімовая вільгаць для нашай зямліцы вельмі важная, вельмі дарагая. Вясной—земля, як толькі пачне падсыхаць—трэскаецца, і праз гэтые шчэліны тая зімовая в'льгаць — як па кноце—падыймаецца парай у паветрэ і гэткім парадкам, разумеецца, прападае.

Каб-жэ затрымаць гэту вільгаць, кожны добры і рупны гаспадар павінен бараной узрушыць зямлю на 2 — 3 цалі с самай вясны, бо гэтым ён пазакрывае тые шчэліны ў зямлі, праз каторые ўцекае сама вільгаць.

Кажуць, што пасьля баранаваньня—земля бардзей высыхае. Праўда, але не зусім: перэсыхае яна, робіцца крухавейшай, але не высыхае, бо толькі той верхні слой зямлі, каторы узрушым мы бараной — падсохне, але за тое захаваем мы ўсю тую вільгаць, каторая знайходзіцца у глыбіне зямлі, с каторай пасьля праз доўгі час будзе карыстаць пасеянае збожэ і гэткім парадкам не так баяцца будзе тых засух, якіе не раз губяць усю працу і надзею нашаго хлебароба.

Апрача таго, баранаваньнем—мы падзяром зімовую скурку на ральлі і гэткім парадкам дадзім больш доступу паветра ў самую зямлю, без каторага жыць--расьці—нічога ня можэ.

Вось, дзеля гэтаго самаго паветра, павінны мы баранаваць ня толькі ральлю, але і сенажаці, выганы, канюшыну, жыта, а кожная расьліна ад гэтай працы над ней, будзе лепш расьці і лепш кусьціцца.

Што гэта праўда, я сам перэканаўся, бо сам на сваім полі спрактыкаваў: баранаваў я ня толькі сенажаць, выган, канюшыну першагоднюю (2-гадовую канюшыну — баранаваў спранжыновай бараной), пшаніцу, жыта, але і ярыну: бульбу, боб, ячмень, авес, мешанкі (авес, выка, гарох, боб), і гэтым нятолькі іх не папсаваў, а ешчэ падправіў: пасьля баранаваньня ўсё стала лепш расьці.

Другой вельмі важнай прыладай для нашай веснавой работы на полі—спранжыновая барана.

Хто дбае, каб зямлю сваю лепш вырабіць, лепш на ей радзіла, а сама работа каб ішла спраўней, — павінен канешна гэткую барану набыць (амэрыканская спранжыновая барана Дэрынга на палозках на 9 зубоў пад пару коні — каштуе 22 рублі). Чыя ня змога купіць яе аднаму, нехай у складчыну купіць с сваімі суседзямі і разам — па чародзе карыстаюць з гэтай прылады.

Калі ральля першы раз ужо забаранавана ці, як кажуць, заскароджэна, ўсю ярыну можна сьмела сеяць пад спранжыновую барану; плуга ня трэба браць і ў рукі, бо, перэварачываючы ім зямлю другі раз, толькі высушым яе.

За барану брацца з вясны што найраней, абы толькі ня было гразка. Дык, зважаючы, дзе земля перш падсохла, там і баранаваць: на адным мейсцы выпадзе тыднем раней, на другім—тыднем пазней, але за тое не зацягнецца работа.

С сяўбой—так сама ніколі не варта сьцягіваць: абы ральля

крыху абагрэлася, падсохла, дык і бярыся за сяўбу, бо тады ў зямлі шмат ешчэ запасу вільгаці, карыстаючы з яе, расьліна ўмацуецца, тады і сухога лета не так будзе баяцца.

І, калі нельга позьніцца с сяўбой ярыны, то, не адкладаючы, трэба брацца і за варыва. Шмат ужо каторые гаспадары сеюць, напрыклад, буракі нават на зіму і яны дужа добра ўдаюцца.

Па вялікшых гаспадарках—пасеянае поле—шмат ужо дзе цяпер — вальцуюць, а робяць усё гэта дзеля таго, каб зямлю прыціснуць і гэткім парадкам затрымаць у ёй на даўжэйшы час зімовую вільгаць, бо прыціснутая вальцам земля, разумеецца, не так паруе.

Вальцаваньне так сама добрая рэч, а найбольш яно патрэбна для азіміны з восені, асабліва, калі жыта, ці пшаніца — азімка пасеяны на сьвежай, неадлежаўшэйся ешчэ ральлі. Тады, прыціснутая вальцам земля, ня будзе сама сабой аседаць, дый глуміць і рваць маладые карэньчыкі азіміны.

**А. Бенецэвіч.**

*21 Марца 1913 г. Падбярезя.*

# Матыльковые расьліны.

Матыльковымі расьлінамі называюцца тые, ў каторых кветкі падобны да матылькоў. Гэткіх матыльковых расьлін ёсць немала: гарох, боб, фасоля, віка, канюшына, сарадэля, лубін і шмат іншых. Усе яны для нашай гаспадаркі маюць вялізарнае значэньне.

Справа вось у чым. Усе матыльковые расьліны, гледзючы на іх зьверху, паміж сабой вельмі розняцца, але за тое карэньчыкі іх шмат маюць супольнаго. На карэньчыкі ўсіх матыльковых расьлін нападаюць маленькіе,—каторых вокам і дагледзіць нельга,—жывучкі (бактэрыі), якіх шмат ёсць у зямлі.

Гэтые жывучкі, ці як іх называюць па вучонаму — бактэрыі, ўпіваюцца у дробные карэньчыкі расьлін матыльковых, вельмі скора там размножываюцца, але ў тых-жэ самых карэньчыках— скора і заміраюць. Вось дзеля чаго, калі ўважна прыгледзіцца, то нойдзем на карэньчыках усіх матыльковых расьлін бытцам невялічкіе гузачкі (наросты).

Гузачкі гэтые бываюць рознай велічы: адны—як прасянае зерне, іншые – як гарох, а часам трапляюцца ў велiч лясного гарэха. Усё гэта залежыць, дзе больш набралося і размножылася гэных жывучак—бактэрый.

Здавалося-б, што гэткіе крывапіўцы, што жывуць на карэньнях расьлін і смокчуць з іх сокі, павінны быць вельмі шкоднымі і для самай расьліны. А тымчасам — наадварот. Бо

трэба ведаць, што матыльковые бактэрыі не маглі-б жыць і размножывацца, каб карысталі яны з адных толькі сокаў карэньчыкаў; дык цягнуць ешчэ гэтые жывучкі корм для сябе і з воздуху, каторы, разумеецца, даходзе ў зямлю, і бяруць з яго як раз тое, што найпатрабнейшае для кожнай расьліны — бо, так званы, азот. Дык вось, як толькі жывучкі ў карэньчыках пазаміраюць, тады ўжо самі расьліны жывяцца імі, выцягіваючы з ніх так патрэбны для свайго добраго узросту — той самы азот, каторым жывіліся сьперша бактэрыі, і гэткім парадкам у колькі столак больш варочаюць сабе карысьці, чым варты былі тые сокі, каторые даўней высмакталі с корнеў — самі бактэрыі.

Цяпер мы лёгка можэм зразумець, чаму пасьля матыльковых расьлін, заўсёды лепш удаецца іншае збожэ: прымерам— па сарадэлі, лубіне, ці канюшыне — добра расьце жыто, па гарахох—аўсы і т. д. Усё гэта дзеля таго, што пасьля матыльковых расьлін у зямлі шмат застаецца іх карэньчыкаў, на каторых німала ешчэ тых гузачкоў з замершымі ўжо бактэрыямі.

Дык вось, прыняўшы пад увагу, што матыльковые расьліны не выпаласківаюць, а узбагачываюць зямлю, трэба нам — хлебаробам зьвярнуць на іх увагу, як гэта даўно зрабілі ўжо за граніцай, і у сур'ёз заняцца імі.

**В—а.**

---

# Млечная гаспадарка.

Млечная гаспадарка ў селян Віленскай губ. — ці то вясковых, ці то хутарных,--дагэтуль вядзецца зусім слаба.

Шмат прычын на гэта зляжылося: чэразпалосіца, нехват пашы, лугоў і т. д., а што найгорш—слабая прасьвета нашаго селяніна - хлебароба навогул, а ў млечнай гаспадарцы — і падаўна.

Але не штука ганіць і крытыкаваць усё гэта; ня штука і раіць селяніну—раіць толькі словамі—як і што трэба рабіць, каб палепшыць сваю гаспадарку; трэба ешчэ паказаць, мала таго—пераканаць на практыцэ—што тое, што мы раім яму, можэ і ўзапраўды даць яму карысьць.

Вось гэтай справай вельмі важнай, бо справай жывучай, заняўся шчыра старшы інструктар малочнай гаспадаркі Віленскай губэрніі пры дэпартамэнці і землеўстраіцельнай камісіі К. К. Фрэйбэрг.

Усей працы, заходу гэтаго руцнаго для справы грамадзянскай чэлавека — мы, разумеецца, вылічаць тут ня можэм. Дадзім толькі неколькі прымероў с паказной практыкі К. К. Фрэйбэрга, каторые ясна нам пакажуць, якую карысьць мы можэм мець с сваіх каровак, калі ўмела будзем іх дагледаць.

Вось, прыглелзьціся толькі уважна на гэтые табліцы, якіе выпісаны на адвароце.

# Паказное кармленьне
(пробы вяліся ад 6

| Названьне каровы | Каторы дзень кармешкі | Давала у сутки малака фунтау | Давалася у суткі фун | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сена | Канюшына | Салома | |
| | | | | | Ярыная | Аржа-ная |
| **Карова № 1** . . . . . . . . | 1 | 13 | 14 | 3 | 6 | 14 |
| Гадоў -- 13. . . . . . . . | 3 | 14 | 7 | 7 | — | 6 |
| Вага — 17 пуд. . . . . . . | 7 | 19 | 7 | 7 | — | 6 |
| Ацялілася 31/I—12 г. . . . | 11 | 25 | 6 | 6 | — | 6 |
| | 15 | 28 | 6 | 6 | — | 6 |
| **Корова „Падласка“** . . . . | 1 | 12 | 12 | — | 19 | 10 |
| Гадоў — 4 . . . . . . . . | 5 | 14 | 4 | 10 | 8 | — |
| Вага — 19 пуд. . . . . . | 7 | 19 | 4 | 10 | 5 | — |
| Ацялілася 24/XI—12 г. . . | 11 | $23^1/_2$ | 6 | 8 | 5 | — |
| | 15 | $22^1/_2$ | 6 | 8 | 5 | — |
| **Карова „Саламянка“** . . . . | 1 | $12^1/_2$ | 8 | — | 11 | 11 |
| Гадоў — 4 . . . . . . . . . | 3 | 13 | 8 | — | 11 | 11 |
| Вага — 20 . . . . . . . . | 7 | 20 | 4 | 10 | 5 | — |
| Ацялілася 24/XI—12 г. . . | 11 | $21^1/_2$ | 4 | 8 | 5 | — |
| | 15 | $23^1/_2$ | 4 | 8 | 5 | — |
| **Карова „Белая“** . . . . . . . | 1 | 13 | 10 | — | 16 | 10 |
| Гадоў — 10 . . . . . . . . | 3 | $14^1/_2$ | 10 | — | 16 | 10 |
| Вага — 18 пуд. . . . . . . | 7 | $21^1/_2$ | — | 10 | 10 | — |
| Ацялілася 28/XI—12 г. . . | 12 | 25 | — | 10 | 10 | — |
| | 15 | 26 | — | 10 | 10 | — |

## Адзін пуд корму каштаваў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сена . . . . . . . | 40 кап. | Вотрубы . . . . . | 80 коп. |
| Канюшына . . . . . | 50 „ | Жмыхі сланэш. . . | 60 „ |
| Салома ярыная . . . | 25 „ | Буракі кармов. . . | 10 „ |
| „ аржан. . . . | 20 „ | Бульба . . . . . . | 16 „ |
| Мякіна . . . . . . | 30 „ | Промешка . . . . . | 90 „ |

# дойных кароу у селян.

## да 22 лютаго 1912 г.).

| корму на штуку т а у | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мякіна аусяная | Вотрубы пшонные | Жмыхі сланэшвік | Кармовые Бураки | Мука | Бульба | Памыі с кухні | Кошт корму у капейках | Даход з малака у капейках | Агульны даход, ці утрата за дзень (+ ці —) |
| — | 2 | — | — | — | — | — | 31 | 26 | — 5 |
| — | 3½ | 3½ | — | — | — | — | 30 | 28 | — 2 |
| — | 4 | 4 | — | — | — | — | 34½ | 38 | + 3½ |
| — | 4 | 4 | — | — | 14 | — | 40 | 50 | +10 |
| — | 4 | 4 | — | — | 14 | — | 40 | 56 | +16 |
| 7 | — | — | — | 2 | 4 | — | 32 | 27 | — 5 |
| — | — | 1 | 10 | 4 | 10 | — | 34½ | 31½ | — 3 |
| — | — | 2 | 10 | 4 | 10 | — | 36 | 43 | + 7 |
| — | — | 3 | 15 | 4 | 10 | — | 53 | 39 | +14 |
| — | — | 3 | 15 | 4 | 10 | — | 50½ | 39 | +11½ |
| 10 | — | — | — | — | 8 | ведз. 2 | 30 | 28 | — 2 |
| 10 | — | — | — | — | 8 | 2 | 30 | 29 | — 1 |
| — | — | 2 | — | 4 | 15 | — | 35½ | 44½ | + 9 |
| — | — | 3 | — | 4 | 20 | — | 39½ | 48½ | + 9 |
| — | — | 3 | — | 4 | 20 | — | 39½ | 53 | +13½ |
| — | — | — | — | 1 | 20 | — | 29½ | 29 | —½ |
| — | — | — | — | 1 | 20 | — | 29½ | 32½ | + 3 |
| — | — | 3 | 20 | 3 | — | — | 34 | 48 | +14 |
| — | — | 3 | 20 | 4 | — | — | 36½ | 56 | +19½ |
| — | — | 3 | 20 | 4 | — | — | 36½ | 58½ | +22 |

Малака адзін пуд лічылі па 80 кап.

У пудзе лічыцца ад 4—5 гарнцоў.

# Гарох.

Гарох, хаця-б ужо дзеля таго, што -- як страва — вельмі пажыўны — павінен зьвярнуць на сябе вялікую ўвагу нашаго селяніна хлебароба, еда катораго праз лад ужо аднастайная: капуста, зацірка, бульба, крупы — і тые не заўсёды; тады, калі гарох с паміж гэтых усіх штодзенных страў — найсытнейшы, бо у складзе свайго зерняці мае больш чым у двая ад уселякіх калосных зернятоў тых пажыўных частак, якіе вельмі патрэбны для сілы і здароўя чэлавека (бялок).

Важна ешчэ і тое, што ў нас — на Беларусі не мало ёсць такой зямлі, каторая зусім прыдатна пад гарох, а тым часам займаюцца ім мала дзе.

Гарох — як пад год — удаецца і на горшых грунтах, але найлепш родзе ён на добра вырабленай, мягкой зямлі, багатай у вапну; апрача таго на маргleватых, пешчаных ні зусім сухіх суглінках.

Удаецца ён пясьля кожнай расьліны, але сам варочацца на тое мейсцэ, дзе яго сеялі — ня любіць раней, як праз гадоў 5 — 6.

Сеяць гарох трэба што найраней, асабліва белы, ці зялёны, бо не дарма нават ёсць прыказка такая :„сей гарох у балото— будзеш зьбіраць злото“. На насеньне, разумеецца, трэба, каб зерняты былі што найлепшые. Каб лягчэй было іх адабраць, не маючы да гэтаго машыны—„зьмейкі“, робяць так: прылажываюць на ускось шырокую дошку, засьцілаюць грубой посьцілкай і сыпяць па крысе зьверху гарох; лепшые зерняты — лёгка і скора коцяцца ў ніз,—горшые і сьмяцьцё астаецца на посьцілцы.

На дзесяціну гароху садзіцца пудоў 10—12; але добра да яго крыху прымешаць ці познаго аўса, ці ярыцы, тады гарох стручнейшы, бо не так вылегае, дык і знізу не падгніваюць стручкі.

Гатункаў гароху ёсць некolькі важнейшые с паміж іх:

1) Рыхлік зялёны—раньні.

2) Белы круглы—пазьнейшы.

3) Бурчак (культурны) з бурымі вялікімі кантовымі зернятамі.

4) Пелюшка. Гэты гарох мае для нас вялікае значэньне, бо удаецца і на горшых пешчаных грунтах; добры на корм жывёле ці зернем, ці на зялёную пашу; прыгодны і да мешанак, ці ўрэшце загорываюць яго, як сарадэлю, ці лубін, на гной.

**Ва—сок.**

# Канюшына.

На самы згон зімы—першая сеўба—гэта сарадэля і канюшына па жыце. Але сёлета весна парупілася, дык аб гэтым не пара ўжо гаварыць.

Хоць, праўду кажучы, ў нас найчасьцей канюшыну сеюць у ярыну. Пасеяўшы авес, ці ячмень забаронываюць сьперша толькі у адзін бок — у поперак; потым разсеваюць канюшыну (найлепш сеяць яе крыж-на-крыж: раўней садзіцца) і лёгкай бараной па разу барануюць у доўж.

Хто маніцца к налецьцю зьбіраць канюшыну на насеньне, той, разумеецца, павінен сеяць яе адну — без дамешкі іншых траў. Калі-ж канюшына мае ісьці на сена, то лепш дадаваць да насеньня блізка трэйцюю часьць цімафейкі (на цяжэйшые грунты), або столькі-ж — райграсу італійскаго (на лягчэйшы грунт). Тады сама канюшына не так вылегае.

Гатункоў канюшыны ёсць некалькі; адну сеюць крыху радзей, другую — гусьцей, зважаючы на ачыстку і буйнасьць саміх зернятаў, але меней-болей трэба высеваць на адну дзесяціну 40 — 50 ф. Дый ешчэ і то трэба памятаваць, што на насеньне заўсёды сеецца радзей, чым на сена.

1) Канюшына чырвоная—ґрунт любіць добры, глыбокі, вапністы, вільгатнавы. Не ўдаецца яна на сухіх жвіраватых, падзолістых і кіслых мейсцах.

2) Швэдская—з бела-ружовымі кветкамі; найбольш прыгодна для падсеву макраватых лугоў.

3) Белая—з белымі кветкамі; добрая для выганоў.

4) Інкарнатка — с прыгожымі чырвонымі кветкамі; вельмі карыстна для веснавой сяўбы на пашу.

Трэба ешчэ ведаць, што як лубін, ці сарадэля, чым болей сеецца на адным і тым самым мейсцы, тым лепш удаецца, так канюшына — гэтаго баіцца. На тым самым мейсцы можна яе сеяць толькі праз гадоў 6, а то і болей, бо іначэй скора перэстае радзіць.

**Цімох.**

---

# Як ужываць фабрычные гнаі — парашкі?

## Чылійская салетра.

**Колькі трэба даваць на дзесяціну пад усе-лякіе расьліны?** Пад збожа каласовае — ад 6 да 10 пудоў; пад бульбу і буракі ад 6 — 12 пудоў на дзесяціну. Стручковые і ўсялякіе канюшыны абходзяцца без салетры, але ўсё-ж такі, пакуль яны

маладзенькіе і ешчэ без наростоў на карэньчыках — можна даць 2—4 пуд. на дзесяціну, што ўсіліць іх рост на пасьля.

**На якую зямлю ужываць?**

Салетра памагае добра на ўсякай зямлі, апрыч надта мокрых, халодных і глеяватых. Разам з звычайным гноям ніколі ніварта даваць.

**У якім часе даваць салетру пад азімые пасевы?**

Пад азімые пасевы пасыпаюць салетру ў восень і на вясну, па палавіне усяго назначанага; сыпать трэба ў сухую пагоду. Баранаваць ня трэба, бо яна сама ад вільгаці лёгка распушчаецца і уцягіваецца ў зямлю.

**Пад ярыну, бульбу і буракі?**

Порцію салетры, назначаную пад ярыну і карняплоды, трэба раздзяліць на дзьве часьці: першую часць — разсыпаць, як толькі расьліны паўзходзяць, а другую — пачэкаўшы 7—10 дзён; на карняплоды—перад абсыпаньням іх.

**Як прыгатаваць салетру да пасеву?**

Каб усюды роўна разсеяць салетру, трэба грудкі яе паразбіваць і перамешаць с сухім торфам, пілавінамі, ці с пяском. Няможна яе разсяваць пасьля дажджу, на сырую зямлю, ні па расе; памятаючы, што яна, як толькі пападзе на мокрые пёркі раслін—прагрызае іх.

## Кайніт.

**На якую зямлю ужываць?**

На лёгкую, пешчаную зямлю і на сухіе сенакосы. На гліністай зямлі кайніт трэба замяніць на патасовую (калійную) соль у 30% (працэнтаў).

**Пад якіе расьліны?**

Кайніт ужываецца найбольш на сенакосы, а на пешчаных землях—пад азіміну і ярыну.

**Колькі даваць на дзесяціну пад уселякую расьліну?**

На сенакосы і пад азімые пасевы с канюшынай — 24—30 пудоў; пад ярыну, гарох, віку, лубін—па 18—30 пудоў на дзесяціну.

**У якім часе і як разсеваць?**

Кайніт трэба сеяць найлепей за 2 — 3 тыдні перад сяўбой, а пад ярыну — найлепш у восень. На сенакосы—гетак сама ў восень — разам с тамасоўкай. Баранаваць пяжкай бараной, ці драпачом. Мешаць с тамасоўкай можна толькі перад самым высевам.

## Соль патасовая 30%.

**На якую зямлю?**

Соль гэта памагае так сама, як і кайніт, толькі яна мае ў $2^1/_2$ разы больш паташу (калія), дык перасылка яе танней абыходзіцца, чым кайніту. Ужываймо яе на землі лёгкіе, пешчаные,

глініста-пешчаные і гліністые, а пабоч—на сухіе сенакосы.

**Пад якіе расьліны?** Соль тамасовая памагае на ўсе аднагодніе расьліны і сенакосы, а найлепш адплачывае яна, разсеяўшы пад бульбу, асабліва, калі даецца разам з гноем, бо ў самым гнаі заўсёды нідахват паташу на вялікшы ўраджай бульбы.

**Колькі даваць на дзесяціну пад якую расьліну?** На лёгкай зямлі пад ярыну, азіміны і пад стручковые — па 6—12 пудоў, а на цяжкай — па 6 — 10 пуд.; пад бульбу бяз гною — па 12 пуд., а на гнаі—па 8—10 пуд, на дзесяціну.

**У якім часе і як разсеваць?** Разсыпаць на колькі дзён перад сяўбой збожа, ці да пасадкі бульбы, або ў восень. Забаранаваць бараной, ці драпачом. Пад азімые, ярыну і бульбу на прыгараным лубіне, патасовую соль даць пад лубін разам с фосфарнымі парашкамі (супэрфосфатам, ці тамасоўкай). С тамасоўкай можна мешаць толькі перад самым высевам, бо лежучы разам—камянеюць. Каб разсыпаць роўна, трэба перамешаць, як і салетру, с пяском і др.

## Тамасоука.

**На якую зямлю?** Найлепша яна на зямлі пешчанай, пешчанагліністай, а такжэ на халодным глеі, гдзе німа вапны, ды на чорназёмі. Надта добры сьлед на ёй астаецца на тарфястых і сухіх сенакосах і лугох.

**Под якіе расьліны?** На вышэй паказаных землях—пад уселякіе расьліны і на сенакосы. А найлепш пад азімые, ярыну с канюшынай і стручковые.

**Колькі даваць на дзесяціну пад уселяніе расьліны?** Гэта залежыць ад таго, колькі фосфарнага квасу ёсць у тамасоўцы: калі 13—15% (процэнтоў), то пад азіміну і ярыну с канюшынай — па 24—30 пудоў; пад ярыну, бульбу і стручковые— ад 18 да 24 пудоў на дзесяціну.. На сенакосы— па 24 — 36 пудоў. Пры тамасоўцы-жэ многапрацэнтнай (калі ёсць у ёй больш фосфарнаго квасу) порціі гэтые для разсыпкі трэба паменшыць.

**У якім часе і як разсеваць?** Разсыпаць на 1—2 тыдні перад сяўбой збожа, прыкрыўшы спранжыноўкай, ці простай бараной на 4 — 5 цалёў глыбіні. Ня сеймо тамасоўкі разам з гноем, ні с супэрфосфатам. Каб вецер не разносіў пры сяўбе тамасоўкі, трэба перад высевам зьмешаць яе с сырым торфам, мокрай зямлёй, ці проста змачыць яе вадой. Лежачы ў вільготным мейсцы, ці на зямлі, можэ скамянець, як цэмант.

# Супэрфасфат.

**На якую зямлю?**

На зямлю глiнiстую i пешчана - глiнiстую, добра выробленую. Нi варта ужываць яго анi па пяскi, анi на сырые, халодные i квасные (кiслые). землi.

**Под якiе расьлiны?**

Пад уселякiе расьлiны, а найболш — пад азiмые.

**Колькi даваць на дзесяцiну пад усякую расьлiну?**

Супэрф. у 13—14% (пр.) па 12—24 п. на дз.
„ „ 19—17% „ „ 9—12 „ „
„ „ 20% „ „ 7— 9 „ „

Пад збожа каласовые, ярыну с канюшынай i лубiн (каб загарацi) — па 12 — 24 пудоў; пад бульбу 12—18 пудоў на дзесяцiну.

**У якiм часе i як разсыпаць?**

Разсеваецца на колькi дзён перад сяўбой, або i разам з зернем i закрываецца драпачом, цi бараной. Ня можна мешаць з вапнай i тамасоўкай; мешаць-жэ з другiмi гнаямi — ня шкодзiць.

**Гдзе купляць фабрычные гнаi?**

Каб, купляючы гэтые парашкi, не ашукацца i не купiць замест добрых, якiх фальшывых, каторых ёсьць многа у прадажы, трэба iх купляць толькi у складах гаспадарскiх суполак, у таварыствах гаспадарскiх, або ў гэтакiх купцоў, што iх добра знаюць i верацъ у iх сумленнасць.

**К. Карповiч.**

*Навагрудак,*
*дв. Мухоўка.*

---

# Наша паша.

Як толькi надойдзе весна, зараз-жэ пачынаюцца нарэканьня памiж селян нашых на нехват пашы для жывёлы. Нарэканьня гэтые, праўду кажучы, чутны ня толькi вясной, але i праз усё лета i ажно да самай восенi.

Але справа вось у чым. Што найчасьцей скупавата у нас пашы, так сказаць—разгону — аб гэтым нiма чаго i гаварыць, але i тую пашу, якая ёсць, ня ўмеем мы шанаваць, ня ўмеем з ёй абыходзiцца i самi гэту пашу глумiм.

Вясной, як толькi пакажуцца першые пратолiны, гаспадары нашы ўжо цешацца, што можна пазбыцца жывёлiны с хлева i выганяюць яе. Дрэнна гэта, разумеецца, бо карысьцi для скацiны нiма нiякай, а гною толькi пазбываемся, каторы астаўся-б у хлеве. Дрэнна, але ешчэ не такая вялiкая бяда, бо тады земля ешчэ ўмерзшы.

Але во дзе мы сябе і ў запраўды губім, гэта, калі зусім ужо згоне сьнег, аттане земля, зробіцца яна мягкая, топкая, а увесь наш дабытак — як коні, каровы, авечкі, сьвіньні — ўсё гэта таўчэцца па мокрых ешчэ сенажацях, гумнішчах, выганах і т. п. З'есьці—разумеецца — там яна ешчэ нічога ня з'есьць, а колькі шкоды, тратуючы, наробе—дык і не падлічыць.

Калі-б мы шанавалі сваю травіцу па гумнішчах і лугох, і з лёду на іх нічога не пушчалі, тады шмат болей зьбіралі-б сена і ня бедавалі-б пад вясну с кормам, абы яго толькі, разумеецца не прадаваць. А як прыбыло-б корму, тады на вясну пазьней можна было-б выганяць скаціну на пасьбішчы, прыждаўшы, калі ўжо земля падсохне і трава падыймецца. Ды і тады ніколі ні варта зразу скрозь пушчаць скаціны, а, падзяліўшы ўсё пасьбішчэ на вучасткі, па чародзе, пачынаючы с першаго, пасьвіць на кожным па дні тры. Дык, пакуль дойдзем да апошняга вучастку, на першым—трава зноў адрасьце, і ня прыйдзецца так нарэкаць, як гэта цяпер бывае, на пашу, бо хваце яе праз усё лета.

І ешчэ адна вельмі важная рада. Каб з вясны хутчэй земля абсыхала, а трава лепей бралася, трэба даць доступ паветру да корэнёў расьлін. Вось дзеля гэтаго, с самай раннай вясны, як толькі згоне сьнег, а земля ешчэ толькі зьверху пачне адтаваць, трэба вострымі жалезнымі баронамі дзёрці дачарна як сенажаці і гумнішчы, так выганы і пасьбішчы.

**Л. Папроцкі.**

---

# Разсаднік.

Як толькі земля абсохнець і можна ускапаць яе, то, не аткладаючы, трэба ўзяцца і прыгатаваць каля дому градку і пасеяць насеньне капусты на разсаду.

Гатункаў капусты ёсьць многа.
1. Капуста кармовая для скаціны.
2. Капуста агародная.

А. Галовістая.
В. Лісьцістая (валошская).

Для нас маюць значэньне галовістые агародные гатункі; і з іх можна раіць **ранные гатункі**:

1. Варшаўская нізкая, круглая, тугая.
2. Эрфуртская малая, ранная, тугая.
3. Слава Энкюйсена, новы гатунак, добра цэняць на рынку.

**Позные гатункі:**

1. Амагор. датчанская, цьвёрдая на высокіх качарыжках; добра зімуе.
2. Брауншвэпская вельмі вялікая, плоская.
3. Грачэва круглая пудовая (балгарская).
4. Грачэва руская.

Лот насеньня гэтых гатункаў капусты каштуіць 15—20 к.

Трэба толькі помніць, ніколі ні купляць абы дзе у крамцы, ці на рынку, бо няведама — што купляем і можна добра ашукацца. Найлепш купляць у вядомых вялікіх складах, дзе напэўна ведама, што ні ашукаюць, або выгадаваць самым насеньня з добрай капусты.

На кавалку у 3 кв. сажні сеецца праве 3 дрэўляные лыжкі, або добрую жменю—ці паўтары.

Сеюць у сьвежую зямлю; каб роўна разсеяць, дадаюць крыху зямлі. Каб, прарастаючы, разсада ні памерзла, трэба градку накрываць саломай, ці лапкамі, і аткрываць толькі ў цёплые дні, калі ўжо капуста добра узыйшла. Калі суха— то трэба падліваць.

У сухую пагоду на разсаду нападаюць малые жучкі-- „блохі земляные“, грызуць лісткі і могуць так зьесці цэлую граду.

Проціў іх найлепш памагаюць вось якіе способы.

Часта спырсківаць халоднай вадой, дабаўляючы патроху (1 часьць на 100 ч. вады) навару с тытуну махоркі.

Можна спырсківаць мешанінай: 1 часьць карасіны на 10 часьцей вады з мылам.

Добра памагае пасыпаць вапнай, белым пяском, тамасоўкай, ці попялам. Але найлепей, то лавіць гэтые блохі на асобую дошку, высмараваўшы бакі яе чым нібудзь вельмі ліпкім: як прымерам смала, або што іншае. Дошку гэту з абодвых бакаў мажуць смалой, але самы край ні мажэцца; або да краю прыбіваюць колічкі, каб на $2^1/_2$ вяршкі тырчэлі вышэй за край. Гэтак прыладзіўшы, цягнуць дошку па градзе, а блохі падскаківаюць і прыліпаюць да дошкі. Робяць гэта разы два у дзень: раніцай і вечарам, калі блохі найрухлівейшые. Гэтак можна іх скора выгубіць. За кожным разам трэба дошку нанова пацягнуць смалой.

**Качан.**

---

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вльня.

Да рэдакцыі зьвертаюцца гаспадары, пытаючыся, дзе яны могуць купіць вікі, канюшыны, аўса, ячменю. Каб памагчы ў гэтай справе нашым падпішчыкам і чытачом, мы гэту вясну будзем дарма друкаваць абвесткі гаспадароу аб насеньнях: такім спосабам можна прадаць выгадней без фактерства.

# ПРАДАЕЦЦА:

Шэры Гарох . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 95 к. пуд.
Віка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1 р. 5 „ „

Ст. Загатье, Бал.-Седл. ж. д. Адрэс для лістаў ст. Ветрыно Віт. губ. Начская вол, В. А. Грыневічу.